ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 4 (53)

КРАСАВІК 1937 г.

[illegible] КНГУ БССР
МІНСК — 1937

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 4 (53)

КРАСАВІК 1937 г.





ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК—1937

## Усім акруговым і раённым інспектарам наргасучота

Пастановай СНК Саюза ССР міжраённыя дзяржкамісіі па вызначэнню ўраджайнасці ліквідаваны, і значная частка функцый апошніх перадана КНГУ.

Гэта пастанова абавязвае нас правадзіць работу па вызначэнню сярэдніх ураджаяў і валавых збораў усёй сістэмай работнікаў КНГУ без стварэння спецыяльнага міжраённага апарата, апіраючыся цалкам на існуючую сістэму раённай і ўчастковай інспектуры.

У сувязі з гэтым ЦУНХУ лічыць магчымым абмежавацца толькі ўтварэннем пры КНГУ БССР сектара ўраджайнасці з невялікім штатам раз'язных інспектароў, задача якіх павінна звадзіцца к кантролю і дапамозе ў рабоце ўчастковых і раённых інспектароў па мерапрыемствах, звязаных з вызначэннем ураджайнасці.

Такім чынам выкананне ўскладзеных на нашу сістэму функцый па вызначэнню ўраджайнасці і валавых збораў патрабуе ў першую чаргу значнага ўмацавання існуючай сеткі ўчастковай інспектуры, так як у першую чаргу інспектары павінны даваць правільныя лічбы ўраджайнасці і весці барацьбу са ўсякага роду антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі ў гэтай частцы.

Перадача КНГУ работы па вызначэнню ўраджайнасці патрабуе таксама значнага палепшання кіраўніцтва пастаноўкай аператыўнага ўчота ў заморганах і кантролю за яго правядзеннем у першую чаргу ў той частцы яго, якая мае непасрэдныя адносіны да правільнага вызначэння ўраджайнасці.

Рабоце па ўстанаўленню дакладных лічбаў ураджайнасці і валавых збораў і кантролю над справаздачнасцю павінен быць прыдан сапраўдны характар, які-б забяспечыў неабходную дапамогу мясцовым партыйным і совецкім органам у іх барацьбе за поўнае выкананне дзяржаўных заданняў па сельскай гаспадарцы.

У адпаведнасці з гэтым мяркуецца наступная пабудова работы па вызначэнню ўраджайнасці і валавых збораў.

## А. Віды на ўраджай

Правільная ацэнка відаў на ўраджай мае вялікае значэнне не толькі як арыентыроўка аб размеры чакаемага ўраджая ў час вегетацыі пасеваў, але і пры канчатковым зацверджанні ўраджайнасці, асабліва па тых культурах, па якіх мы не будзем мець дастатковай колькасці кантрольных матэрыялаў. Пярвічным матэрыялам, якім павінна распалагаць і які павінна кантраляваць наша сістэма, з'яўляюцца ацэнкі відаў на ўраджай, даваемыя калгасамі і райЗА. У сувязі з гэтым уся справаздачнасць па відах на ўраджай, якая прадстаўлялася райземаддзеламі міжраённым дзяржаўным камісіям па ўраджайнасці, будзе прадстаўляцца райінспектарам НГУ. Праверка гэтай справаздачнасці павінна праводзіцца выбарачна з такім разлікам, каб кожны ўчастковы інспектар на месцы (на палях калгаса) праверыў правільнасць ацэнак відаў на ўраджай у двух калгасах свайго ўчастка (па якіх вялося нагляданне ў мінулым 1936 г.) на ўсе тэрміны, якія ўстаноўлены інструкцыяй Наркамзема па ўчоту відаў на ўраджай. Гэта выбарачная праверка, праводзімая ўчастковымі інспектарамі, пры кантролі і дапамозе з боку райінспектароў і інспектароў сектара ўраджайнасці, павінна будзе даць матэрыял для ўнясення карэктываў да даных райЗА.

Устанаўляецца наступны парадак прадстаўлення справаздачнасці па відах на ўраджай:

1. Карткі аб відах на ўраджай, складзеныя ўчастковымі інспектарамі, пасылаюцца на ўсе справаздачныя тэрміны сектару ўраджайнасці КНГУ і, акрамя таго, на першы тэрмін, у ЦУНХУ Дзяржплана СССР.

2. Райінспектар, акрамя картак участковых інспектароў, пасылае на ўсе тэрміны сектару ўраджайнасці КНГУ БССР тэлеграфныя данясенні аб відах на ўраджай у цэлым па раёну па ацэнцы райЗА, паведамляючы ў той-жа тэлеграме даныя аб відах на ўраджай па тых калгасах, якія знаходзяцца пад наглядам участковых інспектароў (ацэнку саміх калгасаў, участковых інспектароў і райЗА).

Даты адсылкі справаздачнасці, паказаныя ў інструкцыі Наркамзема (інструкцыя будзе вам даслана), павінны строга захоўвацца.

## Б. Вызначэнне сярэдніх і валавых збораў

Пярвічным матэрыялам пры канчатковым вызначэнні ўраджайнасці павінны будуць служыць даныя справаздачнасці калгасаў і МТС аб абмалотах (копках).

Для правільнага вызначэння ўраджайнасці валавых збораў культур прадугледжваецца неабходнасць абавязковага ўчота агратэхнічных фактараў, садзейнічаючых стварэнню

ураджая. Існуючая аперацыйная справаздачнасць земорганаў павінна даваць дастатковы матэрыял для праверкі выканання прадугледжаных дзяржаўным планам мерапрыемстваў, забяспечваючых атрыманне высокага ўраджая. Аднак, становішча гэтай справаздачнасці часта бывае не на належнай вышыні і вельмі часта скажаецца. Пагэтаму праз раённых і ўчастковых інспектароў намячаецца правесці праверку аперацыйнай справаздачнасці:

1) аб ходзе сяўбы;
2) аб праполцы;
3) аб пад'ёме папараў і зябі і доглядзе за імі;
4) аб ходзе ўборкі і абмалотах;
5) аб ходзе азімай сяўбы.

Аб часе правядзення праверкі кожнай з гэтых с.-г. кампаній вам будзе паведамлена дадаткова.

Неабходна мець на ўвазе, што ўся праводзімая работа, звязаная з вызначэннем ураджайнасці, павінна праводзіцца акуратна і ў строга вызначаныя тэрміны. Нядобраякасна праведзеная работа і незахаванне вызначаных тэрмінаў пазбавіць КНГУ магчымасці своечасова інфарміраваць вышэйшыя ўрадавыя органы аб становішчы пасеваў, а таксама вызначыць сапраўдны размер ураджая і валавых збораў.

Ужо самы пачатак работы па вызначэнню ўраджайнасці паказаў выключную нядбайнасць і расхлябанасць некаторых нашых райінспектароў. Так, напрыклад: на радыёграму КНГУ раённым інспектурам даць к 25/IV тэлеграфна віды ва ўраджай па азімых па ўказанай форме, частка інспектароў дала віды адвольна: замест калгасаў гектары і інш. Частка інспектароў замест тэлеграм прыслала звесткі поштай са значным спазненнем, таксама не прытрымліваючыся ўказанай формы, а з рознымі разважаннямі, што не дало магчымасці ўключыць іх у распрацоўку. Частка-ж інспектароў наогул не дала ніякіх звестак.

Такая расхлябанасць і недысцыплінаванасць у далейшым павінны быць рашуча ліквідаваны.

Папярэджваю, што за парушэнне тэрмінаў, за скажэнне формы прасімых звестак і т. д. вінаватыя будуць прыцягвацца да суровай адказнасці.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

7/V—37 г.

## Усім райінспектарам і акруговым кіраўніцтвам наргасучота

У дадатак да нашага ўказання аб праверцы правільнасці ўчота сяўбы ўказваем на неабходнасць правядзення наступнага:

1. Арганізацыі сістэматычнага, не менш 2-х разоў у месяц, асабіста і праз участковых інспектароў нагляду за ходам учота і справаздачнасці сельскагаспадарчых кампаній, асабліва за ходам яравой сяўбы ў калгасах, сельсоветах і райЗА, сапастаўляючы справаздачныя даныя з пярвічнай дакументацыяй.

2. Рашучага правядзення барацьбы з незаконнай штодзённай справаздачнасцю, прыцягваючы да адказнасці асоб, уводзячых гэту справаздачнасць.

Звяртаем увагу начальнікаў акруговых кіраўніцтваў і інспектароў наргасучота на важнасць гэтай задачы ў мэтах недапушчэння магчымасці пераўвелічэння альбо недаўчота даных аб ходзе яравой сяўбы і ўборкі хлябоў.

Аб усіх выпадках выяўлення няправільнага ўчота і справаздачнасці па ходу сельгаскампаній і ўвядзення незаконнай справаздачнасці неадкладна прымаць меры на месцы і адначасова паведамляць нас.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

Нач. Учотнай інспекцыі Магідаў.

## Усім раённым і ўчастковым інспектарам наргасучота

Для паспяховай праверкі хода ўчота сяўбы, рэкамендуем наступны парадак правядзення гэтай работы:

1. Парадак правядзення работы па праверцы справаздачнасці вясенняй сяўбы наступны: па-першае, вытвараецца праверка справаздачнасці сяўбы яравых у 1937 годзе ў сельсовеце, у прысутнасці старшыні і сакратара сельсовета. Сутнасць праверкі заключаецца ў злічэнні даных сельсовецкіх зводак аб ходзе сяўбы (ф. № 3 сельсовецкай справаздачнасці) на паказаныя вышэй тэрміны з тымі справаздачамі, якія былі атрыманы ад калгасаў (ф. № 3 калгаснай справаздачнасці) і ўпаўнаважаных сельсоветаў на аднолькавыя з правяраемымі тэрмінамі. Асаблівая ўвага павінна быць удзелена праверцы справаздачнасці аб сяўбе яравых на тэрмін атрымання паведамлення ад калгасаў і сельсоветаў аб сканчэнні сяўбы яравых (рапарт, паведамленне па тэлефону і т. д.). Асаблівая ўвага таксама павінна быць удзелена становішчу аперацыйнай справаздачнасці па аднаасобнаму сектару.

2. Пасля праверкі справаздачнасці ў самім сельсовеце неабходна ў кожным з абследаваных сельсоветаў узяць чатыры калгасы (а на паследуючыя тэрміны два калгасы)

і па два ўпаўнаважаных сельсовета і сумесна з прадстаўніком сельсовета ў прысутнасці старшыні і рахункавода калгаса альбо ўпаўнаважанага сельсовета праверыць становішча справаздачнасці аб сяўбе яравых у калгасе. Для гэтага перад выездам у калгас трэба ў сельсовеце ўзяць завераныя копіі зводак па гэтаму калгасу (правяраемаму) на ўказаныя вышэй тэрміны і злічыць іх з данымі аб фактычна засеянай плошчы ў калгасе на падставе ведамасцей учота выпрацоўкі працадзён, а ў выпаду непаўнаты запісаў у апошнія—на падставе данясенняў брыгадзіраў. Неабходна таксама высветліць, ці не вытваралася прыёмка засеянай плошчы яравых з боку праўлення калгаса і ці складзен аб гэтым акт. Праверка справаздачнасці аб сяўбе яравых у ўпаўнаважанага сельсовета па аднаасобніках і калгасніках павінна асвятліць пытанне аб тым, якім чынам упаўнаважаны вызначае размеры засеянай плошчы па гэтых гаспадарках (на падставе апытанняў домагаспадароў, навока альбо наогул запісвае план). У выпадку сумніцельных даных неабходна прыбегнуць да праверкі справаздачных даных шляхам абмера пасеваў у натуры. Апрача гэтага райінспектура Наргасучота правярае зводку райЗА аб сяўбе яравых на ўказаныя вышэй тэрміны (ф. № 6), параўноўваючы яе з данымі сельсовецкіх зводак (ф. № 3).

Таксама неабходна дасканала праверыць зводку райЗА на тэрмін паведамлення аб сканчэнні сяўбы яравых (рапарт, данясенне НКЗБ і т. д.).

3. Вынікі праверкі становішча ўчота аб ходзе яравых 1937 года павінны фіксавацца ўчастковымі і раённымі інспектарамі наргасучота спецыяльным актам з указаннем выяўленых параўнальных лічб па даных аперацыйнай зводкі і ўстаноўленых райучінспектарам. Акт складаецца абавязкова на кожны правераны калгас, сельсовет і райЗА за подпісам старшынь і рахункаводаў калгасаў (па калгасах), старшынь сельсоветаў і сакратароў сельсоветаў (па сельсоветах) і загадчыка райЗА, інспектара па ўчоту ў акце праверкі райЗА.

Райінспектарам Наргасучота пры праверцы ў райЗА і сельсоветах павінна быць высветлена, ці прымяняецца якаянебудзь іншая справаздачнасць аб сяўбе азімых, апрача ўстаноўленай урадам пяцідзённай справаздачнасці (напрыклад, штодзёнка) і ці не складаецца пяцідзённая зводка на падставе штодзённых паведамленняў сельсовета альбо калгасаў. Да праверкі справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах пажадана прыцягнуць і работнікаў райЗА. Пры выяўленні незаконнай справаздачнасці аб гэтым неабходна адзначыць у акце—выключыць сапраўдны матэрыял і прыкласці картку.

Начальнік Учотнай інспекцыі КНГУ БССР Магідаў.

## Начальніку Ўчотнай інспекцыі КНГУ БССР

У сувязі з пастановай Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Совета народных камісараў Саюза ССР ад 21 сакавіка 1937 г. аб вызваленні сельскіх советаў ад абавязкаў па налічэнню і спагнанню грашовых падаткаў, страхавых плацяжоў і натуральных паставак з 1 ліпеня 1937 года, сельсовет вызваляецца з гэтага-ж часу і ад вядзення ўчоту і справаздачнасці па паступленню падаткаў (акрамя самаабкладання), страхавых плацяжоў і натуральных паставак.

Пастанова аб выключэнні адпаведных форм учота і справаздачнасці з пераліку зацверджанага на 1937 год будзе выдана ЦУНХУ Дзяржплана СССР у бліжэйшы час.

Камітэтам загатовак пры СНК СССР і НКФінам СССР распрацоўваецца падрабязная інструкцыя аб парадку перадачы сельсоветамі гэтай работы органам Камітэта загатовак і органам НКФіна. Вышэйпамянёныя інструкцыі НКФіна СССР і Камітэта загатовак СНК будуць намі разасланы ў копіі таксама і вам.

Пагаспадарчыя кнігі і журнал калгаса (ф. № 1), якія знаходзяцца ў сельсоветах, захоўваюцца і вядуцца ў сельсоветах і пасля 1 ліпеня гэтага года, прычым раздзелы ўчота паступлення грашовых плацяжоў і натуральных паставак з 1 ліпеня не запаўняюцца.

Што датычыцца праекта змянення сістэмы ўчота на 1938 г., то ён будзе ўнесен на абгаварэнне ў ліпені, жніўні 1937 года.

Нам. начальніка Цэнтральнай учотнай інспекцыі
ЦУНХУ Дзяржплана СССР Моргенштэрн.

3 мая 1937 г.
№ 09—013.

## Начальніку Ўчотнай інспекцыі КНГУ БССР

Адбітак сектару рэспубліканскіх і мясцовых бюджэтаў Бюджэтнага кіраўніцтва Наркамфіна СССР.

Цэнтральная ўчотная інспекцыя зварочвае вашу ўвагу на тое, што ў рускім экземпляры „Инструкция по ведению первичного учета в сельских советах Союза ССР и образцы форм на 1937 год“ на старонцы 32 у апошнім абзацы правай калонкі пры наборы ў друкарні два радкі папалі не на свае месцы і тым змянілі сэнс.

Трэба чытаць:

„По группе средств сельбюджета учитываются суммы, относящиеся исключительно к сельскому бюджету; по группе прочих сумм сельсовета проходят суммы самообложения в части, остающейся в распоряжении сельсовета, и разные

переходящие или временно поступающие в распоряжение сельсовета суммы, которые не относятся ни к средствам сельбюджета, ни к госдоходам; в последнюю (третью) группу входят поступления и т. д.".

Далей на старонцы 33 у левай калонцы зверху трэба чытаць:

„Ведение кассовой книги начинается записью в графах прихода „сельбюджет" и „прочие суммы сельсовета" и „суммы государственных доходов, страховых и прочих платежей—остатков наличных денег в кассе и на текущих счетах сельсовета на 1 января".

Несумненна, што работнікі, якія ведаюць вядзенне касавай кнігі (ф. № 26), у свой час заўважылі паказаныя памылкі друку. Аднак, гэтыя памылкі друку могуць увесці ў заблуджэнне работнікаў, якія не зусім асвоілі вядзенне касавай кнігі, а таму неабходна звярнуць іх увагу на гэтыя памылкі друку.

Нам. начальніка Цэнтральнай учотнай інспекцыі
ЦУНХУ Дзяржплана СССР Моргенштэрн.

22 красавіка 1937 г.
№ 09—012.

## Памятка ўчастковаму інспектару па ўчоту відаў на ўраджай

1. Рашэннем ураду аб ліквідацыі камісіі па вызначэнню ўраджайнасці пры СНК СССР работа па вызначэнню ўраджайнасці ўсіх сельскагаспадарчых культур перадана сістэме Народна-гаспадарчага ўчота.

Гэтым самым на нашу сістэму ўскладзен абавязак своечасова і дакладна ўлічваць размеры ўраджаю на ўсіх стадыях развіцця пасеваў да тэрміна рэалізацыі ўраджаю і ўся адказнасць за выкананне гэтай работы. Памятай, што ад тваёй работы, звязанай з вызначэннем ураджайнасці, залежыць сапраўднасць дасылаемых КНГУ ураду даных аб размерах ураджаю, і што ўсякія памылкі і нядбайнасці ў выкананні даручаных табе работ вядуць к парушэнню інтарэсаў социялістычнага будаўніцтва.

2. Першачарговай работай з вызначэннем ураджайнасці з'яўляецца ацэнка відаў на ўраджай, праваджімая ўсімі калгасамі ў устаноўленыя інструкцыяй Наркамзема па ўчоту відаў на ўраджай тэрміны. Праверка правільнасці гэтых ацэнак можа быць праведзена толькі ў тым выпадку, калі КНГУ будзе своечасова мець точныя ацэнкі відаў на ўраджай ад кожнага ўчастковага інспектара па двух калгасах, у якіх ён абавязан праваджіць гэту работу.

Пагэтаму памятай, што пярвейшым тваім абавязкам з'яўляецца своечасовая дасылка поўных і добраякасных даных па ацэнцы відаў на ўраджай.

3. Каб добра выконваць гэту работу, старанна вывучыць інструкцыю Наркамзема па ўчоту відаў на ўраджай у 1937 г. адначасова вывучы формы ўсіх картак, па якіх павінны прадстаўляцца звесткі аб відах на ўраджай, а таксама парадак іх запаўнення, ні ў якім разе не *дапушчай парушэння тэрмінаў адсылкі картак раённаму інспектару.*

4. Не давярайся слову па ацэнцы ўраджаю, якую даў калгас, правер яе добра і на падставе гэтай праверкі дай сваю ацэнку.

Калі выявіш яўнае ашуканства, то неадкладна стаў пытанне перад сельсоветам ці раёнам аб прыцягненні віноўных да адказнасці за свядомую дачу неправідловых справаздачных звестак, адначасова паведамляючы раённага інспектара.

5. Каб праверыць ацэнку калгаса, ты павінен сам на працягу лета агледзець пасевы ва ўсе тэрміны, устаноўленыя інструкцыяй, звязацца з лепшымі ўдарнікамі калгаса, парадзіцца з імі, і толькі тады давай сваю ацэнку відаў на ўраджай. Правярай сябе таксама гутаркамі з аграномамі свайго ўчастка.

6. Памятай, што нельга даваць ацэнку відаў на ўраджай адразу. Вызначы ўраджай раней на асобных участках, потым ужо вызначай сапраўдны ўраджай па ўсяму калгасу. Напрыклад, у калгасе маецца 100 *га* пасеву жыта. Вядома, што ўраджай на розных участках не аднолькавы, і калі агледзець поле і адразу назваць лічбу ўраджаю, то можна дапусціць памылку.

Звярні ўвагу, што для атрымання сярэдняга ўраджаю па ўсяму калгасу нельга проста скласці ўраджай паасобных участкаў і раздзяліць на колькасць участкаў; трэба зрабіць наступным парадкам (прыклад): з 20 гектараў ураджай можа быць з 1 *га* 10 цэнтнераў, а ўсяго—200 цэнтн. Жыта з наступных 30 гектараў можна сабраць па 14 цэнтнераў, ці 420 цэнтнераў (14 х 30) і з апошніх 50 *га* па 23 цэнтнеры, ці 1150 цэнтн. (23 х 50); такім чынам, з усяго пасеву можна сабраць 200+420+1150=1770 цэнтн., а ўсяго пасеву 100 *га*, значыцца, з кожнага гектара ў сярэднім можна будзе сабраць 1770 : 100=17,7 цэнтнераў.

Так трэба рабіць заўсёды, калі трэба атрымаць сярэдні ўраджай па ўсяму калгасу: памнажаецца ўраджай кожнага ўчастка на яго плошчу і атрыманыя зборы складваюцца, потым дзеляцца на ўсю пасеўную плошчу той-жа культуры, ураджай якой вызначаецца, і такім чынам атрымаецца сярэдні ўзважаны ўраджай.

Чым меншыя ўчасткі будуць вызначацца з пачатку ўраджаю, тым больш сапраўдна будзе ацэнка па ўсяму калгасу. Трэба завесці спецыяльную запісную кніжку і запісваць у яе назіранні за ўраджаем па ўчастках у тых калгасах, у якіх вядзецца работа па відах на ўраджай.

Патрэбна дабівацца такога-ж парадку ацэнкі відаў на ўраджай старшыням калгаса, якія знаходзяцца на тваім участку.

7. Паколькі ацэнка відаў на ўраджай патрабуе вялікай пільнасці і дакладнасці, патрэбна добрасумленна агледзець пасевы не толькі з краю дарогі, але і ў сярэдзіне ўчастка. Бывае, на першы погляд, з краю пасеў рэдкі, а ў сярэдзіне ўчастка пасеў роўны і густы; гэта патрэбна абавязкова высветліць.

Бывае, што, з першага погляду, ураджай дрэнны, расліны нізкія, а паглядзіш добра, колас вялікі, у ім шмат зярнят і зярняты вялікія.

Бывае, калі і наадварот: жыта высокае, з погляду добрае, а калі паглядзець добра—шмат каласоў амаль не зусім пустых, альбо паражоных шкоднікамі.

Патрэбна ўсё гэта добра высветліць, і тады можна даць сапраўдную ацэнку ўраджаю.

8. Вельмі важна правідлова высветліць прычыны, якія маюць уплыў на вышыню ўраджаю ў той ці іншы бок. Напрыклад, не было дажджа, усходы былі дрэнныя, не было дастаткова вільготнасці, потым прайшоў добры дождж, пасевы хутка выправіліся і пайшлі ў рост. У гэтым выпадку асноўнай прычынай, палепшыўшай пасевы, быў дождж. У другім выпадку дажджоў даўно не было, а ўсё-ж у адным калгасе можна чакаць ураджаю 12 цэнтн. з 1 *га*, а ў другім толькі 7—8 цэнтнераў. У чым тут справа? Абавязкова трэба высветліць агратэхніку ў гэтых калгасах, і сапраўды высветліцца, што ў першым калгасе пасеў быў праведзен своечасова, яравізаваным, добра ачышчаным сортавым насеннем, у добра падрыхтаваную глебу, узараную з восені; у другім выпадку, хаця пасеў таксама быў праведзен сартавым насеннем, добра ачышчаным, але на адным участку ў 50 *га* пасеў быў праведзен па веснавому ворыву ў сухую зямлю: усходы спазніліся, пасевы не прапалваліся, і ўраджай на гэтым участку чакаецца нізкі. Або такі прыклад: не гледзячы на добрае надвор'е, у адным калгасе ўраджай бульбы чакаецца ў 150 цэнтнераў з 1 *га*, а ў другім 70 цэнтнераў; якая прычына ўплывае на ўраджай?

Аказалася: першы калгас не толькі своечасова пасадзіў бульбу, але паспеў яе своечасова і апрацаваць (правёў ворыва міжраддзяў і акучку), што пры добрым надвор'і забяспечыла яму высокі ўраджай.

Другі-ж калгас таксама своечасова пасадзіў бульбу, але на адным участку ў 30 *га* спазніўся з апрацоўкай, а 15 засталіся не ўзаранымі, бульба зарасла бур'янам, і ўраджай на гэтым участку чакаецца нізкі.

9. Вынікі работы павінны ўпісвацца ў спецыяльную картку, на ёй-жа дадзены ўказанні, як яе запоўніць і ў якія адрасы пасылаць.

На працягу лета неабходна своечасова пасылаць звесткі па наступных розных картках—у тэрміны, якія ўкажа раённы інспектар. Па картцы № 1 „Звесткі аб відах на ўраджай азімых і ранніх яравых зернавых культур"—на 3 тэрміны. Па картцы № 2 „Звесткі аб відах на ўраджай сеяных траў і натуральных сенажацей"—на 2 тэрміны.

Па картцы № 3 „Звесткі аб відах на ўраджай бабовых і позніх зернавых культур"—на 3 тэрміны.

Па картцы № 5 „Звесткі аб відах на ўраджай асноўных тэхнічных культур і бульбы"—3 тэрміны.

10. Памятай, што Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота давярае табе работу велізарнай палітычнай важнасці. Зрабі ўсё, каб апраўдаць аказанае табе давер'е ў справе сапраўднага вызначэння ўраджаю, якое мае велізарнае значэнне для совецкай дзяржавы.

Памятай, што ў сваёй рабоце па вызначэнню ўраджайнасці ты павінен быць па-большэвіцку пільным, праявіць сябе сапраўдным змагаром за дзяржаўныя інтарэсы, весці актыўную барацьбу з могучымі быць праявамі заніжэння ўраджайнасці, што з'яўляецца антыдзяржаўнай справай.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Уладзімірскі
Начальнік Сектара ўраджайнасці КНГУ БССР Тадэуш.

## ЗАГАД № 224

## па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 3 мая 1937 года*

Для ўстанаўлення сапраўднага кантролю за выдаткаваннем сродкаў, а таксама памяншэння камандыровачных выдаткаў, устанавіць наступную сістэму ўчота і справаздачнасці на 1937 год па акруговых кіраўніцтвах і райгорінспектурах наргасучота:

1. Усе акруговыя кіраўніцтвы і райгорінспектуры наргасучота вядуць фінансавы ўчот абавязкова ў кнізе ўчота бюджэтных сродкаў адпаведна дасланым КНГУ БССР паказанням.

2. На падставе ітогаў гэтай кнігі, акруговыя кіраўніцтвы і райгорінспектуры складаюць квартальную справаздачу аб руху і выдаткаванні крэдытаў па форме № 19, якая павінна дасылацца ў нарастаючых ітогах у бухгалтэрыю КНГУ не

пазней 3-га чысла наступнага месяца (г. зн. за II квартал да 3-га ліпеня, за III кв. да 3-га кастрычніка 1937 г. і за год—да 3-га студзеня 1938 г.).

3. Незалежна ад квартальнай справаздачнасці, у мэтах ажыццяўлення сапраўднага кантролю за выдаткаваннем сродкаў, усе акруговыя кіраўніцтвы і райгорінспектуры НГУ павінны дасылаць у бухгалтэрыю КНГУ БССР штомесячна, не пазней 3-га чысла наступнага за справаздачным месяцам, каштоўным пісьмом пры вопісу (далучаемага ўзора) грашовыя апраўдальныя дакументы ў арыгіналах.

У акруговых кіраўніцтвах і інспектурах застаецца адзін экземпляр вопісу дасланых дакументаў.

4. Бухгалтэрыя КНГУ абавязана штомесячна дасылаць пацвярджэнне аб атрыманых дакументах з заўвагамі па іх.

5. Устанавіць, што фінансаванне акруговых кіраўніцтваў і райгорінспектур вытвараецца толькі ў залежнасці ад прадстаўлення апраўдальных дакументаў. Пры непрадстаўленні дакументаў спыняецца водпуск сродкаў акруговаму кіраўніцтву і інспектуры і адказнасць за вынікі гэтага ўскладаецца цалкам на адпаведнага начальніка акруговага кіраўніцтва і райгорінспектара НГУ.

6. Дакументы за мінулы час даслаць у бухгалтэрыю ў наступныя тэрміны:

а) за I квартал (г. зн. з 1 студзеня 1937 г. да 1 красавіка)—да 15 мая гэтага года;

б) за красавік і май—да 3 чэрвеня;

в) у далейшым—3 чысла кожнага месяца за мінулы месяц.

7. Галоўнаму бухгалтару т. Бунімовічу штомесячна, праз 2 дні па сканчэнні тэрмінаў прадстаўлення дакументаў, прадстаўляць мне спісы раёнаў і акруг, не даслаўшых дакументаў.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

Зацвярджаю:
Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

## Пералік апраўдальных дакументаў па паасобных артыкулах выдаткаў акруговых кіраўніцтваў і райгорінспектур Наргасучота, якія дасылаюцца ў бухгалтэрыю КНГУ згодна загада № 324

1. § 2, арт. 1—зарплата:

а) ведамасць на выдачу зарплаты;

б) пералічэнні з штампам банка па падаходнаму падатку, культзбору і на пазыку 2-й пяцігодкі;

в) ведамасць на выплачаныя прэміі, калі выплата вытваралася з артыкула 1.

2. § 2, арт. 4—налічэнні.

Копія даручэння з штампам банка аб пералічэнні сум мясцкому.

3. § 2, арт. 5—наём і ўтрыманне памяшкання:

а) ведамасць на выплату кватэрных (па райгорінспектурах);

б) рахункі на выдаткі па ўтрыманню памяшкання, апал, асвятленне і інш. выдаткі па ўтрыманню памяшкання (па акруговых кіраўніцтвах).

4. Па арт. 6. Канцвыдаткі:

а) канц. выдаткі—рахункі магазінаў на закупленыя канц. прылады;

б) паштова-тэлеграфныя выдаткі—квіты на пасланыя тэлеграмы, спісы паштовых адпраўленняў, з штампам пошты, з паказаннем даты адпраўкі, куды адпраўлена і кошту кожнага адпраўлення;

в) рахункі на выпісаныя газеты, рахункі па іншых дробных выдатках (рамонт сталоў і т. д.).

5. Па арт. 7-му—утрыманне транспарта:

а) рахункі на фураж;

б) рахункі на рамонт збруі і цялег;

в) падкоўка коней і інш.;

г) пакупка бензіна (для акруговых кіраўніцтваў, якія маюць аўта-машыны);

д) бягучы рамонт аўтамашын.

6 Па арт. 8—камандыровачныя выдаткі:

а) ведамасць на выплату раз'язных раённым і ўчастковым інспектарам;

б) рахункі па раз'ездах і камандыроўках.

7. Па ўсесаюзных перапісах і стат. абследваннях:

а) арт. 1 — зарплата—ведамасці на выдачу зарплаты шчотчыкам, кантралёрам, рэгістратарам і інш.;

б) копіі даручэнняў, са штампам банка, на пералічэнне па падаходнаму падатку і культзбору;

в) артыкул 20—іншыя выдаткі—рахункі на канц. выдаткі, раз'езды (авансавыя справаздачы), спісы паштовых адпраўленняў, квіты на пасланыя тэлеграмы і т. д.

Усе рахункі павінны быць напісаны чарніламі або хімічным алоўкам. Рахункі, пісаныя простым алоўкам, прымацца не будуць.

Подпісы на ведамасцях таксама павінны быць зроблены чарніламі або хімічным алоўкам.

Рахункі павінны мець абавязкова наступныя адзнакі: а) на атрыманых ад прыватных асоб—адрас асобы, якая выдала рахунак, і пропісам сума атрыманых грошай; б) на набываемыя рэчы распіска асобы, якая іх атрымала.

Галоўны бухгалтар КНГУ БССР Бунімовіч.

## Выписка из положения в республиканских, областных (краевых) и районных органах Центрального управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР, утвержденного постановлениями СНК СССР от 10 марта 1932 г. № 312 и 21 мая 1933 г. № 1002

### I. Общие положения

1. Народно-хозяйственным учетом и статистикой в Союзе ССР ведает единая общесоюзная система органов народно-хозяйственного учета—Центральное управление народно-хозяйственного учета Госплана СССР и его органы в союзных республиках:

а) управления народно-хозяйственного учета союзных республик;

б) управления народно-хозяйственного учета автономных республик;

в) краевые (областные) управления народно-хозяйственного учета;

г) городские управления народно-хозяйственного учета в Москве, Ленинграде и Харькове (на правах областных управлений);

д) районные инспектуры народно-хозяйственного учета и городские инспектуры (в городах, выделенных в самостоятельные административно-территориальные единицы).

2. Органы Центрального управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР в союзных республиках находятся в непосредственном подчинении и действуют под непосредственным руководством Центрального управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР или соответственно вышестоящих управлений народно-хозяйственного учета.

Директивы и задания, исходящие от Центрального управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР, являются для его органов и учетно-статистических органов ведомств и организаций обязательными к исполнению, и действие их на территории данной республики может быть приостанавливаемо лишь при явном несоответствии их конституции Союза, законодательству Союза или союзной республики Центральным исполнительным комитетом или президиумом Центрального исполнительного комитета союзной республики, с немедленным сообщением о таком приостановлении Совету народных комиссаров Союза ССР и начальнику Центрального управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР.

3. Постановления, директивы и задания управлений народно-хозяйственного учета в союзных и автономных республиках и областях (краях) по вопросам учета и статистики, основанные на директивах Центрального управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР, являются обязательными для нижестоящих органов народно-хозяйственного учета, а также для всех ведомств и организаций (в том числе общественных), находящихся на территории данной республики, области (края).

В соответствии с этим секторы (управления, отделы) учета и статистики ведомств и организаций, подчиняясь оперативному руководству соответствующего ведомства или организации, обязаны выполнять исходящие от соответствующих органов народно-хозяйственного учета директивы и задания; опротестование их ведомств перед вышестоящими органами народно-хозяйственного учета не приостанавливает их исполнения.

4. Ведомства и организации обязаны по требованию республиканских, областных (краевых) и районных органов народно-хозяйственного учета представлять материалы по всем учетно-статистическим работам в любой стадии их разработки.

5. Управления народно-хозяйственного учета союзных и автономных республик, областей (краев) и инспектуры народно-хозяйственного учета в районах (городах) представляют плановым комиссиям, правительствам республик, исполнительным комитетам областей (краев) и районов (городов) по их требованию необходимые учетно-статистические сведения и материалы в об'еме своего плана учетно-статистических работ.

Примечание: Работы, не предусмотренные планом, управления народно-хозяйственного учета союзных республик и его органы могут производить по заданиям республиканских и местных органов власти лишь за счет республиканского или местного бюджета при условии обеспечения производства этих работ учетно-статистическим персоналом.

6. Содержание единой системы органов народно-хозяйственного учета Госплана СССР относится за счет общесоюзного бюджета.

Сметы, структура и штаты всей системы органов народно-хозяйственного учета утверждаются Центральным управлением народно-хозяйственного учета Госплана СССР.

Республиканские областные (краевые) и районные органы народно-хозяйственного учета пользуются правами самостоятельного распоряжения кредитами.

## V. Инспектуры народно-хозяйственного учета в районах и городах, выделенных в самостоятельные административно-хозяйственные единицы

15. Инспектуры народно-хозяйственного учета при райисполкомах и горсоветах являются органами, непосредственно подчиненными вышестоящим управлениям народно-хозяйственного учета и ведающими делом учета и статистики на территории соответствующего района или горсовета.

На районные исполнительные комитеты (и горсоветы) в отношении инспектур управлений народно-хозяйственного учета возлагается надзор за их деятельностью без вмешательства в их оперативную работу, заслушивания их отчетов и обеспечение выполнения ими возложенных на них задач.

Во главе инспектур стоят инспекторы народно-хозяйственного учета, назначаемые вышестоящим управлением народно-хозяйственного учета. Инспекторы при райисполкомах и городских советах являются членами районных и городских (там, где они имеются) плановых комиссий.

Инспекторы не могут быть смещаемы без разрешения ышестоящего органа народно-хозяйственного учета.
в

## VI. Задачи и функции инспектур народно-хозяйственного учета в районах городах, выделенных в самостоятельные административно-хозяйственные единицы

16. На инспектуру народно-хозяйственного учета возлагается:

а) Непосредственное выполнение учетно-статистических работ, предусмотренных планом, и заданий, исходящих от вышестоящих органов народно-хозяйственного учета.

> Примечание: Воспрещается инспектурам народно-хозяйственного учета выполнять какие бы то ни было работы, предлагаемые к исполнению местными органами, без разрешения вышестоящего управления народно-хозяйственного учета.

б) Содействие работе районных (городских) плановых комиссий и исполнительных комитетов (горсоветов) путем экономико-статистического освещения вопросов районного хозяйства и общественной жизни и представления названным органам учетно-статистических сведений и материалов в об‘еме своего плана учетно-статистических работ.

в) Инспектирование и контроль за постановкой учетно-статистических работ, проводимых по плану и заданиям соответствующих ведомств, отделами и инспектурами райисполкомов и горсоветов, а также всеми прочими учреждениями и организациями, находящимися на территории

района или горсовета, инструктирование их и принятие мер к устранению неправильной постановки работ и иных недостатков в организации этих работ.

г) Содействие и проведение мероприятий широкой популяризации основ учета, улучшение дела учета во всех отраслях хозяйства на территории района (горсовета), привлечение к делу учета и сосредоточение на нем внимания широкого круга трудящихся и общественных организаций; содействие внедрению учетной дисциплины во всех учреждениях и организациях, содействие районным (городским) организациям в правильной организации учета и отчетности, главным образом на сельскохозяйственных предприятиях и в колхозах.

д) Составление районного (городского) сводного плана учетно-статистических работ и осуществление на его основе контроля за выполнением районного (городского) плана народно-хозяйственного учета.

е) Проверка по сути учетно-статистических работ районных (городских) организаций.

ж) Систематизация учетно-статистических данных о хозяйстве района (города) для надобностей планирования, а также для издания периодической информации и районных (городских) справочников.

з) Организация сельской сети учетно-статистических работников, инструктирование их в работе.

и) Созыв совещаний работников учета и статистики для обсуждения вопросов текущей работы по учету и статистике.

## Райінспектарам наргасучота

Райінспектарам наргасучота Чачэрскага раёна т. Гарбачовым складзена падрабязная дакладная запіска аб рабоце прамысловасці па Чачэрскаму раёну за 1936 год.

Запіска гэта, якая змяшчае ў сабе аналіз работы паасобных галін прамысловасці раёна і практычныя прапановы, з'яўляецца каштоўнай работай райінспектара т. Гарбачова.

Неабходна, каб па прыкладу т. Гарбачова ўсе апошнія райінспектары правялі ў сябе такую работу.

Дакладная запіска т. Гарбачова была заслухана на прэзідыуме Чачэрскага райвыканкома, пастанову якога мы змяшчаем тут.

Учотная інспекцыя КНГУ БССР.

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Чачэрскага райвыканкома

*ад 7 красавіка 1937 г.*

### Аб выніках работы прамысловасці за 1936 г.

Заслухаўшы інфармацыю і дакладную запіску райінспектара наргасучота т. Гарбачова аб рабоце прамысловасці за 1936 г., прэзідыум РВК адзначае:

1. Па наркамацкай прамысловасці.

Выкананне плана па леспрамгасу (101 проц.), канторы Маслапрома (102,4 проц.) і невыкананне плана: па падсочцы (79 проц.), плодавінзаводу (65 проц.) у выніку адсутнасці правільнай арганізацыі работ (падсочка), незабяспечанасці сыравінай і недастатковай арганізацыі збыта вырабаў (плодавінзавод).

2. Па кааперацыйных прадпрыемствах выкананне плана: па смалакураных заводах, арцелі імя Калініна (на 103,9 проц.) і шевецкай арцелі (на 142,4 проц.), невыкананне плана швейнай арцеллю (вык. плана на 83,6 проц.) і зусім нездавальняючая работа цагельнай арцелі „Прагрэс“ (вык. плана на 30,2 проц.).

3. Невыкананне планаў вырабу цэглы цагельнымі заводамі калгасаў „Росквіт“ на 48,5 проц. і імя Молатава на 12,6 проц.

Усё гэта сведчыць аб тым, што з боку Райплана не было дастатковай праверкі выканання планаў прадпрыемствамі наркаматаў і каапераційных арганізацый, а таксама адсутнічала своечасовая сігналізацыя перад прэзідыумам РВК аб прарывах у рабоце асобных прадпрыемстваў.

Выходзячы з гэтага прэзідыум РВК пастанаўляе.

1. Прапанаваць Райплану на сваім чарговым паседжанні заслухаць і зацвердзіць планы цагельных заводаў калгасаў „Росквіт“ і імя Молатава, а таксама цагельнай арцелі „Прагрэс“. Адначасова Райплану абмеркаваць пытанне аб падрыхтоўцы Чачэрскага плодавінзавода да нарыхтоўкі сыравіны ў сезон 1937 года, а таксама і планы забеспячэння збыта прадукцыі і вырабаў. Практычныя мерапрыемствы па гэтых прадпрыемствах унесці на прэзідыум РВК

2. Лічачы зусім нізкую якасць цэглы, што прывяло да значных страт па вытворчасці (аплата няўстоек па дагаворах кліентам) і ўдаражэнне сабекошту цэглы, прапанаваць арцелі „Прагрэс“, калгасам „Росквіт“ і імя Молатава павысіць якасць цэглы, для чаго: замацаваць сталыя кадры рабочых, стварыўшы ім належныя культурна-

бытавыя ўмовы, не дапускаючы перакідак рабочых з аднаго працэса вытворчасці на другі.

3. Прапанаваць Райплану для аднаўлення работы сталярнай майстэрні РВК унесці на прэзідыум РВК канкрэтныя прапановы па яе арганізацыі і пуску ў 1937 г.

4. Прапанаваць райЗА і калгасам раёна ўдасканаліць планы па скарыстанню ў якасці ўгнаення вевіаніта і прыняць усе захады да яго скарыстання ў пасеўную 1937 г.

5. Прапанаваць леспрамгасу паставіць пытанне перад Наркамлесам аб уключэнні ў план механізацыі лесараспрацовак і вывазак Чачэрскага раёна.

Старшыня РВК—Шульга.
Сакратар—Терашкоў.

## Аб фактах вочкаўцірацельства ў ходзе сяўбы і парушэння агратэхнікі па Яромкаўскаму сельсовету і калгасах імя Леніна, Якаўлевіцкага сельсовета, і імя Кірава, Пугляеўскага сельсовета

### Пастанова прэзідыума Аршанскага райвыканкома

*ад 20 красавіка 1937 г.*

Праведзенай загадчыкам райЗА т. *Касцюкевічам* праверкай хода сяўбы і правільнасці справаздачнасці ў Яромкаўскім сельсовеце і калгасах імя Леніна, Якаўлевіцкага сельсовета, і імя Кірава, Пугляеўскага сельсовета, устаноўлена, што кіраўніцтва Яромкаўскага сельсовета (намеснік старшыні сельсовета тав. Царанок, сакратар сельсовета Якуцін) і кіраўніцтва калгасаў імя Леніна, Якаўлевіцкага сельсовета (старшыня Вевель) і імя Кірава, Пугляеўскага сельсовета (старшыня Баеў, брыгадзір Краўцоў), не арганізавалі ранняй сяўбы, у выніку чаго сяўбу правалілі і замест таго, каб узняць масы на ліквідацыю прарываў у сяўбе праз разгортванне социялістычнага спаборніцтва і ўздым стаханаўскага руху, заняліся шкоднымі антысовецкімі справамі—вочкаўціраце льствам і паддзелкай (перапраўкай) зводак.

Так, у Яромкаўскім сельсовеце па становішчу на 15 красавіка перапраўлены зводкі ў калгасах „Чырвоныя ліпкі", „Чырвоныя Яромкавічы", „Зара свабоды", „X з'езд советаў", „8 сакавіка" і „Ленінскія ўсходы" больш як на 65 гектараў у бок павелічэння і, акрамя гэтага, сельсоветам асабіста ад сябе пры складанні зводак у райЗА прыпісана па-

